**Гродна**
№5 (463),
26 лютага 2017

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ У БЕЛАРУСІ НАВЕДАЕ ГРОДЗЕНСКУЮ ДЫЯЦЭЗІЮ



**У пачатку сакавіка арцыбіскуп Габар Пінтэр упершыню прыедзе з візітам у Гродна. Напярэдадні значнай для вернікаў дыяцэзіі падзеі дыпламатычны прадстаўнік папы Францішка даў спецыяльнае інтэрв'ю для газеты "Слова Жыцця". У ім распавёў аб тым, што лічыць найбольшым багаццем Беларусі, пра якія ўзроўні межканфесійнага дыялогу трэба памятаць пры будаванні адзінства і чаму хрысціяне не павінны навязваць свае каштоўнасці.**

● працяг на с. 4–5

## Каляндар падзей

*1 сакавіка*
*Папяльцовая серада. Пачатак Вялікага посту. Вернікаў абавязвае сціслы пост.*
*4 сакавіка*
*Свята св. Казіміра, заступніка дыяцэзіі.*
*5 сакавіка*
*I Нядзеля Вялікага посту.*
*8 сакавіка*
*Міжнародны жаночы дзень. Молімся ў інтэнцыі ўсіх дзяўчат і жанчын.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Сакавік*
*Аб плённым перажыванні парафіяльных велікапосных рэкалекцый.*
*Аб святле Святога Духа для тых, хто праводзіць духоўныя практыкаванні і ўдзельнічае ў іх.*
*Аб дары плённага перажывання дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

*"Сімвал веры"*
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 4 красакавіка.***

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

**"Дастаткова ставіць Езуса ў цэнтр нашых штодзённых рашэнняў". Папа Францішак**

# Разважанні з Божым словам

**VIII НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ**
**Мц 6, 24–34**

Езус сказаў сваім вучням: "Ніхто не можа служыць двум гаспадарам. Бо ці аднаго будзе ненавідзець, а другога любіць; ці аднаго будзе трымацца, а другім пагарджаць. Не можаце служыць Богу і мамоне.

Таму кажу вам: Не клапаціцеся аб жыцці вашым, што есці і што піць, ні аб целе вашым, у што апрануцца. Ці ж душа не большая за ежу, а цела – за вопратку? Паглядзіце на птушак нябесных: яны ні сеюць, ні жнуць, ні збіраюць у засекі, і Айцец ваш Нябесны корміць іх. Ці ж вы не нашмат лепшыя за іх? Ды і хто з вас, клапоцячыся, можа дадаць сабе росту хоць на адзін локаць? І пра вопратку навошта клапоціцеся? Паглядзіце на лілеі палявыя, як яны растуць: ні працуюць, ні прадуць. Але кажу вам, што і Саламон ва ўсёй славе сваёй не апранаўся так, як адна з іх. Калі ж на палявую траву, якая сёння ёсць, а заўтра будзе кінута ў печ, Бог так апранае, наколькі ж больш вас, малаверныя! Таму не клапаціцеся і не кажыце: «Што нам есці?» – або: «Што піць?» – або: «У што апрануцца?». Бо ўсяго гэтага шукаюць язычнікі. Айцец жа ваш Нябесны ведае, што вы маеце патрэбу ва ўсім гэтым. Шукайце найперш Валадарства Божага і справядлівасці Ягонай, а гэта ўсё дадасца вам. Таму не клапаціцеся аб заўтрашнім дні, бо заўтра само за сябе паклапоціцца. Хопіць кожнаму дню свайго клопату".

## ПАД ШТАНДАРАМ ЕЗУСА

Вялікія гэтага свету маюць свае распазнавальныя знакі: родавыя гербы, геніялагічныя дрэвы і штандары. У медытацыях св. Ігнацыя Лаёлы гаворыцца пра 2 штандары – Езуса і д'ябла. Выбраць штандар Хрыста – значыць пайсці толькі і выключна за Ім. І гэта добрае рашэнне. Аднак зманы свету могуць паспрыяць таму, што чалавек пачынае вагацца і нават змяняе сваё меркаванне.

Ісці за Езусам можна як у сужэнстве, так і ў святарстве ці манаскім жыцці. Небяспека адыходу ад Бога існуе таксама ў абодвух станах жыцця – можна сустрэць нявернасць як у шлюбе, так і ў святарстве. Момант дабравольнага выбару, пад чым сцягам хочам правесці сваё жыццё, для кожнага індывідуальны, яго цяжка акрэсліць. Такі момант можа здарыцца неаднаразова за час доўгай зямной вандроўкі.

**І НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Мц 4, 1–11**

Дух вывеў Езуса ў пустыню, каб д'ябал выпрабоўваў Яго. І пасціў Ён сорак дзён і сорак начэй, і нарэшце згаладаўся. Тады падышоў да Яго спакушальнік і сказаў Яму: "Калі Ты Сын Божы, скажы, каб гэтыя камяні сталі хлебам". А Ён сказаў у адказ: "Напісана: «Не хлебам адным будзе жыць чалавек, але кожным словам, што выходзіць з вуснаў Божых»". Тады ўзяў Яго д'ябал у святы горад, паставіў на версе святыні і сказаў: "Калі Ты Сын Божы, кінься ўніз, бо напісана: «Анёлам сваім загадае наконт Цябе, і на руках панясуць Цябе, каб Ты часам не спатыкнуўся аб камень нагою сваёй»". Езус сказаў Яму: "Напісана таксама: «Не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго»". Д'ябал зноў узяў Яго на вельмі высокую гару і паказаў Яму ўсе валадарствы свету і славу іх, кажучы: "Усё гэта дам Табе, калі ўпадзеш і паклонішся мне". Тады сказаў яму Езус: "Адыдзі, сатана, бо напісана: «Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць»". Тады д'ябал пакінуў Яго, і вось Анёлы падышлі і служылі Яму.

## ТРЫ МАСКІ Д'ЯБЛА

У кожным чалавеку тлеюць вугольчыкі зла. Гэта вынік граху непаслухмянасці першых людзей. Таму мы пастаянна павінны выбіраць паміж дабром і злом, духоўнымі і матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Магчымасць свабоднага выбару з'яўляецца выразам годнасці і вольнасці чалавека, але разам з тым – прычынай яго драмы. Хрыстос праз паслухмянасць Богу і трыумф крыжа даў людзям моц, каб перамагаць зло. На прыкладзе ўласнага жыцця Збаўца вучыць даваць адпор д'яблу, хоць той пастаянна дзейнічае сярод нас і нястомна атакуе, спакушаючы хлебам, поспехам і ўладай. Вялікі пост павінен дапамагчы кожнаму ўмацаваць веру праз слуханне і чытанне Божага слова, спажыванне Хлеба Жыцця, каб былі здольныя супраціўстаяць спакусе д'ябла і выбраць дарогу паслухмянасці Айцу.

*Кс. Юрый Бяганскі*



**Слова рэдактара**
*Кс. Юрый Марціновіч*

# На добрую дарогу Вялікага посту

*Як і штогод, Касцёл запрашае нас увайсці ў літургічны перыяд Вялікага посту. Распачынаем яго, пасыпаючы галовы попелам, каб яшчэ раз сабе прыгадаць: "Ты – прах, і ў прах вернешся". Наперадзе чакае 40-дзённая пакута – перыяд адрачэнняў, пастаноў, паляпшэння... Гэта асаблівы час, каб суцішыць сваё сэрца, адсунуць у бок непатрэбныя справы, паглядзець у будучыню з надзеяй. Час пакорнасці, час, поўны таямнічасці. Але яго можна як плённа выкарыстаць, так і лёгка растраціць...*

Вялікі пост з'яўляецца нібыта знакам STOP, які паставіў Той, хто ласкавы, пяшчотны, міласэрны і шматцярплівы, – любячы Бог, які аддаў жыццё з любові да кожнага чалавека. Хвіліны спакою, прыпынку, роздуму, малітвы патрэбны нам сёння як ніколі. Патрэбна цішыня пустога касцёла, сумных і адначасова такіх прыгожых пакутных песень, споведзей, што няраз вышэптваюцца праз слёзы, бо мы зноў не стрымалі слова. Патрэбны доўгія рэкалекцыйныя сустрэчы і вяртанні блудных сыноў і дачок, а таксама выразныя ўказальнікі, пастаўленыя Богам і добрымі людзьмі.

У гэты асаблівы час мы сутыкаемся з неабходнасцю "перастаноўкі" ў думках, словах і ўчынках. Справа ў тым, каб "навярнуцца да Бога ўсім сваім сэрцам" (Ёэл 2, 12). Да Бога, у якім усё мае пачатак і канец. Бога, які аддаў за мяне жыццё і прагне, каб я Яго пераймаў. Неабходна толькі моцна маліцца аб тым, каб дабрыня Стварыцеля перамагла наша супраціўленне, каб над руінамі эгаізму ўсё выразней зяяла святло Божай любові. Для гэтага нам патрэбна мужнасць Веранікі і моц Сымона Кірынэйца. Патрэбна чуласць заплаканых жанчын, якія выйшлі насустрач Езусу. Патрэбен давер Марыі, каб не хавацца ад пакут і крыжа, а наблізіцца да яго і вызнаць, што Езус – наш Пан. На парозе Вялікага посту варта ўсвядоміць сабе: "Усё магу ў тым, хто ўзмацняе мяне" (Флп 4, 13).

Мы павінны адважна вырушыць у Крыжовы шлях, каб здолець з пакорай выслухаць несправядлівыя абвінавачванні. Убачыць падзенне – і першае, і кожнае чарговае. Даўжэй затрымацца пры асаблівай сустрэчы Сына і Маці – без слоў і жэстаў, перапоўненай любоўю. Сустрэць Вераніку і Сымона. Суцешыць жанчын, што плачуць. І нарэшце – узысці на Галгофу, стаць пад крыжом і сказаць на ўвесь свет: "Крыж Хрыстовы, будзь праслаўлены!".

**Дарагія Чытачы!**

Разважаючы муку і смерць Езуса на крыжы, давайце вучыцца па прыкладзе Збаўцы выконваць Божую волю. Давяраймa Яму ўсе цяжкасці, цярпенні і жыццёвыя выпрабаванні. Няхай пост, малітва, пакута і ўчынкі міласэрнасці, за якія возьмемся ў гэты час, падрыхтуюць нас да радаснага перажывання Велікоднай раніцы – таямніцы Хрыста Уваскрослага.

Ахвяруем сваё сэрца і думкі Адзінаму Богу. Убачым Яго там, дзе дагэтуль не бачылі, дзе не хацелі пачуць. Давайце кожны дзень імкнуцца сустракаць Пана ў сваім сэрцы, жыццёвых падзеях, святыні, Божым слове.

Будзьма вернымі Хрысту, ідучы за Ім па дарозе крыжа. І тады нам нанова будзе дадзены Божы свет – свет праўды і радасці. Будзьма добрымі вадзіцелямі свайго жыцця. Звяртайма ўвагу на знакі любові, адным з якіх з'яўляецца Вялікі пост. Усім жадаю добрай дарогі!




# Кім былі пастушкі з Фацімы?

**У папярэднім нумары чытачы мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з бл. Гіяцынтай Марто – жвавай, спагадлівай, чулай дзяўчынкай, якая ахвяравала пасілкі за грэшнікаў і шмат малілася за Святога Айца. Якім жа быў яе родны брат?**



## БЛАСЛАЎЛЁНЫ ФРАНЦІШАК МАРТО

Нарадзіўся 11 чэрвеня 1908 года ў Алжуштрэл (Партугалія). У адрозненне ад сваёй малодшай сястры Гіяцынты здаваўся спакойным, удумлівым. Бацька Францішка прызнаваў, што сын быў вельмі ціхім і паслухмяным. Ні з кім не сварыўся. А Луцыя казала пра яго: "Я не вельмі любіла Францішка, таму што яго мірны тэмперамент кантраставаў з маёй празмернай жывасцю".

Хлопец адзначаўся глыбокай верай. Быў адважны, клапатлівы і здольны на вялікія ахвяры. Меў добрае здароўе. Адчувальная душа Францішка ўвесь час захаплялася прыгажосцю стварэння: небам, крынічкамі, кветкамі і найперш сонцам, якое было для яго сімвалам моцы Бога.

Пасля таго, як Марыя сказала, што ў хуткім часе хлопец памрэ, той гадзінамі кленчыў на малітве ў адасобленым месцы. Заходзячы з прадказання Маці Божай, Францішак не хацеў хадзіць у школу, каб больш часу праводзіць у касцёле. Сцвярджаў, што яму не патрэбна ўменне добра чытаць і пісаць, калі хутка ён пакіне свет. Такім чынам хлопец таксама хацеў пазбегнуць недарэчных каментарыяў няверуючага настаўніка, які насміхаўся з аб'яўленняў Марыі дзецям.

Ідучы за заклікам сузірання, Францішак усё часцей пакідаў людзей і маліўся ў адзіноце. На пытанне што робіць паказваў ружанец. Калі Гіяцынта і Луцыя настойвалі, каб пайшоў пагуляць з імі, адказваў: "Ці не памятаеце слоў Маці Божай аб тым, што я павінен адгаварыць шмат таямніц Ружанца?". Калі знаходзілі яго, паглыбленага ў свае сумуе з-за столькіх грахоў... Калі б я мог ахвяраваць Яму трохі радасці!".

Паводле слоў Луцыі, Францішка найменш уразіла страшнае бачанне пекла, таму што яго вельмі захапіў вобраз Святой Тройцы ў "вялікім святле, якое пранікала нават самы далёкі куточак нашай душы". Яна таксама ўспамінала, што "ў той час, калі Гіяцынта была захоплена толькі адной думкай – як навярнуць грэшнікаў і вызваліць душы з пекла, Францішак думаў выключна аб суцяшэнні нашага Пана і Маці Божай, якія здаваліся яму вельмі сумнымі".

Хлопец прагнуў як мага хутчэй прыступіць да І Камуніі і атрымаць вечнае шчасце ў небе. Так і стала. Ён прыняў Цела Езуса ў першы і адначасова апошні раз перад самым канцом свайго кароткага жыцця на зямлі. Памёр 4 красавіка 1919 года. Калі ў 1935 годзе былі адкрыты труны Гіяцынты і Францішка, аказалася, што іх целы непашкоджаныя. Пастушкі былі беатыфікаваны папам Янам Паўлам ІІ 13 мая 2000 года ў Фаціме.

Бл. Францішак прыгадвае людзям сучаснасці, што ўсе мы пакліканы да святасці. Дарога да неба ў кожнага непаўторная. І кожнаму без выключэння на ёй спадарожнічае Найсвяцейшая Маці. Трэба толькі даверыцца і адкрыць Марыі сваё сэрца.

Давайце вучыцца ад бл. Францішка разважлівасці, замілаванню да ружанцовай малітвы і прастаце дзіцячага сэрца, якое не падманвае і не здаецца. Падтрымаем любоўю Стварыцеля, яно заўсёды шчырае і поўнае даверу да Бога і людзей.

*У наступным нумары чытайце пра Слугу Божую с. Луцыю Сантас.*

*Кс. Юрый Марціновіч*



# Набліжаецца Вялікі пост – час адрачэння і аднаўлення

**1 сакавіка, у Папяльцовую сераду, католікі распачнуць перыяд 40-дзённага посту, які дазваляе больш шырока адкрыцца на прыняцце Божай ласкі. Згодна з навучаннем каталіцкага Касцёла, гэта час пакаяння і навяртання, а таму цудоўная нагода, каб выбрацца ў "духоўную спартзалу". Унутраныя нагрузкі павінны выражацца праз канкрэтныя выбары і ўчынкі, перамяненне жыцця і вяртанне да запавета з Богам, што быў разарваны па прычыне граху.**

Кожны чалавек ведае пра ўласныя недахопы і слабасці. Усім без выключэння знаёма пачуццё ўнутранай незадаволенасці з-за іх і шляхетныя пастановы змяніцца ў лепшы бок. На жаль, кожны спатыкаўся і з няўдачай, калі не мог рэалізаваць сваё пачынанне. Адны маюць "саламяны" запал, другія, нягледзячы на добры пачатак, паступова губляюць энтузіязм… І ўсё застаецца па-ранейшаму. Вядомы каталіцкі блогер Сэм Гузман прапануе практычныя рашэнні, дзякуючы якім можна перажыць пост лепш, глыбей, так, як сабе яго запланавалі. Прапануем з імі азнаёміцца.

### СКЛАДЗІ ПЛАН

Самы хуткі спосаб зруйнаваць Вялікі пост – мець добрыя інтэнцыі без плана іх рэалізацыі. Аднаго толькі "збіраюся больш маліцца" можа не хапіць для таго, каб рэалізаваць гэтую годную мэту. Таму варта вырашыць, якім чынам збіраешся выканаць пастанову, у які час будзеш маліцца, якімі малітвамі, у якой інтэнцыі і праз чыё заступніцтва. Памятай, Твой план павінен быць рэальным. Можа не атрымацца маліцца 8 разоў на дзень ці штодзённа 5 разоў адгаворваць усю ружанцовую малітву. Калі ўбачыш, што Твой занадта амбітны план нельга рэалізаваць, можаш страціць жаданне і поўнасцю адмовіцца ад яго. А гэта перамога д'ябла. Няхай Твае велікапосныя пастановы будуць сціплыя і практычныя.

### ПРАЧЫТАЙ ДОБРУЮ КНІГУ

Адным з грахоў, пералічаных у любой кнізе, якая рыхтуе да рахунку сумлення, заўсёды значыцца "нечытанне духоўнай літаратуры". Таму чытай. Можаш пачаць са Святога Пісання, жыццеапісанняў святых, твораў вялікіх людзей Касцёла ці Катэхізіса. Варта таксама зазірнуць у велікапосныя разважанні.

### ПРЫГЛЯДЗІСЯ ДА СЯБЕ

Вялікі пост – гэта дасканалы час для "інвентарызацыі" стану душы. Задумайся, якія Твае галоўныя памылкі? Ці маеш утоеных бажкоў? Што часцей за ўсё трымае Цябе паводдаль ад Бога? Зрабі дакладны рахунак сумлення, які дапаможа дыягнаставаць сваё духоўнае здароўе. "Інвентарызацыя" душы можа аказацца балючай. Аднак гэта добры боль, які можа прывесці да аздараўлення.

### ВЫЗНАЙ ГРАХІ

Што можа стаць чарговым крокам пасля здзяйснення рахунку сумлення? Безумоўна, споведзь. Яна асабліва патрэбная, калі ў апошні раз Ты быў ля канфесіянала даўно. Не забудзься, каб споведзь была добрай, павінны быць здзейснены 5 умоў: рахунак сумлення, жаль за грахі, цвёрдае пастанаўленне выправіцца, шчырая споведзь, выкананне прызначанай пакуты.

### МАЛІСЯ

Прызнаемся шчыра: кожны з нас можа маліцца больш. Вялікі пост – добры момант, каб запланаваць і рэалізаваць у жыццё новы "расклад" штодзённых малітваў, якія будуць нам спадарожнічаць на працягу ўсяго года. У гэты перыяд рэкамендуецца выбіраць пераважна малітвы, што з'яўляюцца адначасова актамі раскаяння, жалю і пакаяння за грахі. Вось некалькі прапаноў: Балесныя таямніцы Ружанца, стацыі Крыжовага шляху, Вяночак да Божай міласэрнасці, пакутныя псалмы, Літанія да Найдаражэйшай Крыві Пана нашага Езуса Хрыста.

### ПАСЦІСЯ

Пост, як і малітва, павінен спадарожнічаць нам на працягу ўсяго года, а не толькі ў перыяд Вялікага посту. Ці неабходна адмаўляцца ад салодкага або алкаголю? Не. Гаворка не аб тым, каб адсунуць "слодычы", якія не з'яўляюцца прычынай правіннасцей. Трэба засяродзіцца на адмаўленнях, звязаных з галоўнымі грахамі. Можа, Ты залежны ад інтэрнэту? Можа, зашмат працуеш і з-за гэтага мала часу прысвячаеш сям'і? А можа, часта крытыкуеш іншых? Ужываеш рэзкія словы? Ад гэтага таксама магчыма трапіць у залежнасць. Памятай словы Пана Езуса: "І калі Цябе спакушае вока тваё, вырві яго" (Мц 18, 9). Таму выяві карані сваіх галоўных грахоў і вырві іх. Гэта таксама пост.

### АХВЯРУЙ МІЛАСЦІНУ

Падчас Вялікага посту асаблівым чынам перажываем ахвяру Езуса на крыжы – найвялікшы акт велікадушнасці ў гісторыі. "Бог даказвае сваю любоў да нас тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі" (Рым 5, 8). Гэтая шчодрасць павінна і нас падштурхоўваць праяўляць міласэрнасць адносна іншых, асабліва ўбогіх. У сёлетнім Вялікім посце Ты можаш дапамагчы беднаму, жабраку на вуліцы ці якой-небудзь з патрабуючых манаскіх супольнасцей. Памятай пра абяцанне Збаўцы: "І хто напоіць аднаго з малых гэтых толькі кубкам халоднай вады як вучня, сапраўды кажу вам, не страціць узнагароды сваёй" (Мц 10, 42).

*Падрыхтавала*
*Кінга Красіцкая*

## Каштоўныя парады на Вялікі пост:

- Пастарайся ўсвядоміць, што пост не супраць Цябе, а для Цябе.
- Прымі велікапосны час як нагоду, каб не ісці ўвесь час той самай дарогай, а змяняцца ў лепшы бок.
- Не забывайся, пост – гэта барацьба з сабой і для сябе.
- Матывуйся тым, што дзякуючы пакаяннаму перыяду становішся зноў здольным кіраваць указальнікі свайго жыцця на Бога.
- Будзь цярплівым.
- Думай пра іншых. Клапаціся, каб на іх тварах з'яўлялася ўсмешка.
- Памятай, што Езус спадарожнічае Табе ўвесь час.
- Не губляй надзеі, калі цяжка.
- На ўсё глядзі з любоўю.


*Андрэй Горбач*

*Яшчэ да нядаўняга часу перыяд Вялікага посту атаясамліваўся ў мяне выключна з адмовай ад мяса па серадах і пятніцах ды з удзелам у пакутных набажэнствах. Сваё стаўленне да яго сутнасці я перагледзеў 2 гады таму. Вырашыў, што буду выкарыстоўваць час посту для таго, каб змяняць жыццё ў лепшы бок, і не толькі на 40 дзён, але і надалей. З гэтай мэтай пачаў выбіраць адмысловыя пастановы. Спачатку змагаўся са звычкай лаяцца матам. Зусім не саромеюся казаць пра тое, бо ведаю, што шмат маладых людзей засмечваюць мову, ужываючы непрыгожыя словы, а зараз цешуся, што вызваліўся ад дрэннай звычкі. У мінулым годзе падчас Вялікага посту перагледзеў стаўленне да свайго ладу жыцця. У вольныя дні я прачынаўся апоўдні, мог гадзінамі гуляць у камп'ютарныя гульні, глядзець фільмы і г. д., таму выпрацаваў для сябе дэвіз "Не марнуй час дарма". Канешне, у гэтым пытанні мне яшчэ ёсць куды імкнуцца, але і так дзякую Богу, што змог больш-менш загартаваць сваю сілу волі, і зараз атрымліваю асалоду ад таго, што не сяджу на адным месцы, а ўсебакова развіваюся і цвёрда іду да сваіх мэт.*

*У бягучым годзе буду выкарыстоўваць Вялікі пост як штуршок да паляпшэння адносін са сваякамі. Выспела жаданне перайсці на новы ўзровень зносін са старэйшым пакаленнем. Заўважаю, што нам часта нестае ўзаемапаразумення, здараюцца канфлікты, якія нярэдка перарастаюць у сварку. Хачу навучыцца згладжваць падобныя сітуацыі. Спадзяюся, што Хрыстос дасць мне сілы, каб вытрываць. Аб гэтым штодня прашу ў малітве.*


*Наталля Катушонак*

*Для мяне Вялікі пост – гэта час спакою. Я адмаўляюся ад слухання музыкі, не гляджу тэлевізар, да мінімуму абмяжоўваю сваё прабыванне ў інтэрнэце, імкнуся знаходзіць больш часу на малітву. Перыяд посту таксама дае мне магчымасць прыгледзецца да сябе, пераасэнсаваць пэўныя жыццёвыя сітуацыі, дзеянні і ўчынкі. У гэтым вельмі моцна дапамагаюць рэкалекцыі – пасля духоўных практыкаванняў на многія рэчы пачынаю глядзець зусім па-іншаму.*

*Адна з сёлетніх пастаноў – адмова ад салодкага. Магчыма, яна падаецца банальнай, але ад мяне гэта будзе патрабаваць шмат высілку. Спакуса з'есці цукерку ці шакалад такая вялікая, што сапраўды цяжка яе пераадолець і вытрымаць, таму буду загартоўваць сілу волі і духа. Яшчэ адна пастанова – кожны дзень адгаворваць дзясятак Ружанца і Вяночак да Божай міласэрнасці. Ну і добрыя ўчынкі ніхто не адмяняў.*


*Віялета Каляндовіч*

*Вялікі 40-дзённы пост з'яўляецца для мяне нагодай, каб сцішыцца, задумацца над сабой і сваім жыццём, прааналізаваць паводзіны і ўзгадаць грахі. Заўсёды прыкладаю шмат намаганняў, каб плённа перажыць гэты перыяд падрыхтоўкі: паглыбіць сваю веру, прымножыць духоўныя якасці. Калі казаць пра велікапосныя пастановы, то сёлета я планую адмовіцца ад удзелу ў забаўляльных мерапрыемствах. Таксама пастараюся больш часу прысвячаць малітве, чытанню Святога Пісання. Абавязкова буду прымаць удзел у Крыжовым шляху, каб разам з Хрыстом перажываць Яго пакуты. Наведаю рэкалекцыі і паспавядаюся, каб падрыхтаваць сваё сэрца да найвялікшай падзеі – хвалебнага Уваскрасення Езуса.*

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Вялікі пост – гэта пачатак, шлях, які вядзе да бяспечнай мэты: Пасхі Уваскрасення, перамогі Хрыста над смерцю. Гэты перыяд заўсёды скіроўвае нам рашучае заахвочванне да навяртання. Хрысціянін пакліканы вярнуцца да Бога "ўсім сваім сэрцам" (Ёэл 2, 12), каб не здавольвацца пасрэдным жыццём, але ўзрастаць у прыязнасці з Панам. Езус – верны Сябар, які ніколі нас не пакідае, бо нават калі грашым, Ён цярпліва чакае нашага вяртання і адначасова паказвае сваё жаданне прабачыць.*

*Вялікі пост – гэта спрыяльны час, каб аднавіць сябе ў сустрэчы з жывым Хрыстом у Яго слове, сакрамантах і ў бліжнім. Пан, які за 40 дзён, праведзеных у пустыні, перамог напады спакусніка, указвае дарогу, якой неабходна ісці. Няхай Дух Святы вядзе нас да распачацця сапраўднай пілігрымкі навяртання, каб нанова адкрыць Божае слова, каб быць ачышчанымі ад граху, які асляпляе, і служыць Хрысту, прысутнаму ў патрабуючых братах. Давайце маліцца адзін за аднаго, каб, прымаючы ўдзел у перамозе Хрыста, мы ўмелі адкрыць свае дзверы для слабых і ўбогіх. Тады зможам жыць упоўні і сведчыць аб пасхальнай радасці.*

*Фрагмент папскага паслання на Вялікі пост 2017*

**Кс. бп Аляксандр Кашкевіч**



*Пан Езус, стаўшы паслухмяным Айцу аж да смерці і смерці крыжовай, каб такім чынам збавіць свет, паказвае нам найглыбейшы сэнс пакут. Бог у сваім неспасціжным Провідзе ўчыніў так, што цярпенне перамянілася – стала дарогай, якая вядзе да збаўлення, да паўнаты жыцця і шчасця. Хрысціянская вера паказвае, якую вялікую каштоўнасць у Божых вачах мае цярпенне. Яна дадае сіл і бадзёрасці мільёнам хворых ва ўсім свеце, дазваляе ім перажываць фізічныя і духоўныя хваробы з годнасцю і любоўю, улівае ў сэрцы надзею і давер. Наша вера вучыць таксама, што пакуты маюць вялікую духоўную вартасць не толькі для цярпячай асобы – гэта вялікі скарб Касцёла. Ахвяруючы свае пакуты ў інтэнцыях верных і свету, хворыя памнажаюць нябачныя багацці, выпрошваюць шчодрыя Божыя ласкі і дары, спрыяюць узрастанню святасці ў супольнасці Касцёла.*

*Фрагмент казання, прамоўленага падчас Дня хворых, Сапоцкін, 11.02.2017*




# МАЛІТВА НА ВЯЛІКІ ПОСТ

**Пане Езу Хрыстэ, які прыняў лёс зярнятка пшаніцы, што падае ў зямлю і памірае, каб прынесці багаты плён. Ты запрашаеш нас пайсці такім жа шляхам, калі кажаш: "Хто любіць жыццё сваё, загубіць яго, а хто ненавідзіць жыццё сваё на гэтым свеце, захавае яго для вечнага жыцця". Дапамажы нам у гэтым Вялікім посце не толькі спадарожнічаць Табе высакароднымі думкамі, але і прайсці гэтую дарогу сэрцам, нават больш – канкрэтнымі ўчынкамі штодзённага жыцця. Падтрымай у тым, каб увайсці на шлях крыжа цалкам і назаўсёды на ім застацца. Вызвалі ад страху перад высмейваннем з боку іншых, ад боязі, што жыццё можа выслізнуць ад нас, калі не схопім усё, што нясе. Паспрыяй у выкрыцці спакусаў, якія абяцаюць шчаслівае жыццё, але сваімі ілюзіямі канчаткова пакідаюць у нас пустату і расчараванне. Дапамажы не хацець завалодаць жыццём, але аддаваць яго. Няхай, спадарожнічаючы Табе на шляху пшанічнага зярнятка, знойдзем у "страце жыцця" дарогу любові, якая сапраўды дае жыццё ў дастатку. Амэн**




◆ *Упершыню ў гісторыі ў базіліцы св. Пятра ў Ватыкане будзе адпраўлена англіканскае набажэнства – Вячэрняя малітва, падобная на каталіцкія Нешпары. Літургію адправяць 13 сакавіка пры алтары рымскай катэдры. Згоду на дадзеную падзею выразіў архіпрэзбітэр базілікі кардынал Анджэла Камастры. Набажэнства будзе часткай святкавання 50-годдзя Англіканскага цэнтра ў Вечным Горадзе.*

◆ *Папа Францішак перадаў 200 тыс. еўра на патрэбы педыятрычнай клінікі ў Бангі (Цэнтральнаафрыканская Рэспубліка), якую наведваў восенню 2015 года ў рамках апостальскага падарожа на Афрыканскі кантынент. Грашовыя сродкі былі сабраны ад продажу дыскаў з дакументальным фільмам "Адкрываючы Ватыканскія музеі", знятага Ватыканскім тэлевізійным цэнтрам. DVD-дыскі ва ўнікальным футляры выстаўляліся на аўкцыёнах у Лондане, Турыне, Мілане і Рыме. Дарэчы, гэта ўжо не першая дабрачынная ініцыятыва на карысць медыцынскай установы ў Бангі.*

◆ *Ва ўсходняй Ісландыі будуецца новая каталіцкая святыня, якую ўзводзяць славацкія капуцыны. Яна будзе выканана поўнасцю з дрэва, што паходзіць з радзімы гэтых манахаў. Разам з тым збіраюцца сродкі, неабходныя для пабудовы яшчэ аднаго касцёла ў паўднёвай часцы вострава. Неабходнасць узвядзення новых святынь вынікае з факту, што на працягу апошніх 10-ці гадоў колькасць католікаў у гэтай скандынаўскай краіне ўзрасла ў 3 разы. На дадзены момант іх у Ісландыі каля 14-ці тыс. і яны маюць там 6 парафій. Католікі складаюць 3,5% ад агульнай колькасці насельніцтва. У апошнія гады гэтая лічба павялічваецца.*

◆ *Метрапаліт у Мадрыдзе (Іспанія) перадаў арганізацыі "Mensajeros de la Paz" ("Пасланцы Міру") 5 тыс. білетаў для патрабуючых. Іх уручэнне адбылося ў касцёле св. Антонія, якім ужо 2 гады апекуюцца "пасланцы". За гэты час святыня стала кропкай апоры для бяздомных, імігрантаў і жабракоў. "Мы вельмі ўдзячныя за гэтыя білеты, – гаворыць а. Анхель Гарсія, заснавальнік і кіраўнік «Mensajeros de la Paz». – Яны як чыстае золата для патрабуючых. Многія, хто не мае ніякага забеспячэння, павінны перааддольваць шмат кіламетраў, каб шукаць ежу ці вырашаць іншыя справы".*

◆ *На французскім кніжным рынку з'явілася новая катэгорыя бестсэлераў – аўтабіяграфічныя апісанні вялікіх навяртанняў. На гэта звяртае ўвагу парыжская газета "La Croix". Выданне акрэсліве некалькі агульных рыс такой літаратуры: асабісты крызіс аўтараў, пошук сэнсу жыцця або барацьбу з сумневамі. Прыняцце веры прыводзіць да поўнага адраджэння і перамены. На думку чытачоў, сведчанні "блудлівых сыноў" падбадзёрваюць, паказваючы сутнасць каталіцкай веры, тое, што ў ёй больш за ўсё прыцягвае.*

*credo-ua.org; pch24.pl; ekai.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# АПОСТАЛЬСКІ НУНЦЫЙ У БЕЛАРУСІ



## Ксёндз арцыбіскуп Габар Пінтэр

Нарадзіўся 9 сакавіка 1964 года ў Венгрыі. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 11 чэрвеня 1988 года. З'яўляецца прэзбітэрам дыяцэзіі Ваца (Венгрыя). З 1 ліпеня 1996 года знаходзіцца на дыпламатычнай службе Апостальскай Сталіцы. Біскупскае пасвячэнне прыняў 15 ліпеня 2016 года. Валодае венгерскай, нямецкай, італьянскай, англійскай, французскай, іспанскай, крэольскай, шведскай і рускай мовамі.

● *працяг са с. 1*

**Ваша Эксцэленцыя, ці чулі Вы раней што-небудзь пра Беларусь? Якія ўражанні пра краіну і яе жыхароў склаліся ў Вас пасля некалькіх месяцаў прабывання ў Беларусі?**

Больш глыбокае знаёмства з Беларуссю пачалося пасля майго прызначэння на пасаду Апостальскага нунцыя ў гэтай краіне. Прыехаўшы сюды, прагнуў пазнаваць Беларусь праз жывы кантакт з людзьмі. Менавіта таму лічу вельмі важным для сябе вывучыць рускую і беларускую мовы, каб мець магчымасць не толькі непасрэдна весці дыялог, але і лепш пазнаць і зразумець душу народа. За пяць месяцаў майго служэння ў Беларусі магу сказаць, што яе найбольшым багаццем з'яўляюцца людзі: гасцінныя, добразычлівыя, працавітыя, міралюбівыя...

Нядаўна я наведваў Магілёў, дзе меў цудоўную магчымасць бліжэй пазнаць багатую гісторыю гэтага рэгіёна, мясцовых людзей, іх радасці і цяжкасці, штодзённасць і планы на будучыню. Пакаштаваў таксама адметную кухню... З нецярпеннем чакаю наступных нагод для знаёмства з іншымі рэгіёнамі краіны.

**У чым заключаецца місія Апостальскага нунцыя? Як бачыце сваю дзейнасць у беларускай дзяржаве?**

Апостальскі нунцый – гэта прадстаўнік Святога Айца, які павінен, па-першае, забяспечыць лучнасць мясцовага Касцёла з Паўсюдным, па-другое, як пасол дзяржавы Ватыкан спрыяць наладжванню адносін паміж Святым Пасадам і той краінай, у якую быў прызначаны. У маім выпадку – з Беларуссю.

Паміж Рэспублікай Беларусь і Дзяржавай Ватыкан існуюць добрыя дыпламатычныя адносіны. У бягучым годзе будзем святкаваць юбілей 25-годдзя дыпламатычнай дзейнасці паміж дзвюма краінамі. Такім чынам, я з'яўляюся спадкаемцам плённай працы маіх папярэднікаў і спадзяюся, што гэты дыялог і супрацоўніцтва будуць развівацца і ў будучыні.

**Вы маеце багаты вопыт дыпламатычнай службы. Працавалі ў Гаіці, Балівіі, Швецыі, Францыі, Філіпінах і Аўстрыі. У гэтых краінах налічваецца 40–85% насельніцтва каталіцкага веравызнання. У Беларусі ж каталіцызм займае слабейшыя пазіцыі. Ці бачыце ў гэтым пэўныя цяжкасці?**

Не! Малая колькасць вернікаў ніколі не з'яўлялася праблемай для Касцёла. Ён заўсёды імкнуўся да якасці, а не да колькасці. Можна быць малой часткай грамадства, але надаваць смак жыццю навокал. Гэта праяўляецца ў аўтэнтычнасці нашай веры, якая павінна рэалізоўвацца праз канкрэтныя ўчынкі і міжасабовыя адносіны ў штодзённым жыцці.

**Складаючы беларускім вернікам прывітальнае слова, Вы заўважылі, што прыярытэтным накірункам апостальскай дзейнасці ў краіне лічыце паглыбленне братняга суіснавання паміж каталіцкім Касцёлам і праваслаўнай Царквой. Якія крокі, на Ваш погляд, могуць дапамагчы ў справе экуменічнага дыялогу? І, увогуле, наколькі важным з'яўляецца гэтае пытанне ў сучасным свеце?**

У сённяшнім падзеленым свеце пытанне экуменічнага дыялогу з'яўляецца як ніколі актуальным і важным. Усе добра разумеюць, што толькі калі мы – хрысціяне – будзем разам, зможам быць верагоднымі сведкамі Хрыста.

Калі гаворым пра бударванне міжканфесійнага дыялогу, павінны разумець, што існуюць розныя яго ўзроўні: тэалагічны і жыццёвы. Навукоўцы і тэолагі шукаюць шляхі да еднасці праз дыялог і тэарэтычныя даследаванні. Але, на мой погляд, больш важны дыялог жыцця. Часцей за ўсё непаразуменні і канфлікты з'яўляюцца наступствам няведання адзін аднаго. Таму супольнае жыццё, пазнанне адзін аднаго, супрацоўніцтва могуць стаць аднымі з тых інструментаў, якія дапамогуць адкідваць прадузятае стаўленне і будаваць здаровыя ўзаемаадносіны павагі і сяброўства.

**У якой меры дыпламатычным павінен быць Касцёл? Здараюцца сітуацыі, калі, напрыклад,**



*У пачатку лютага арцыбіскуп Габар Пінтэр наведаў Магілёў, дзе з цікавасцю пабываў у Музеі гісторыі горада*

# У ЦЕСНЫХ УЗАЕМААДНОСІНАХ



**Як узгадаў у інтэрв'ю Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Габар Пінтэр, у бягучым годзе адзначаем юбілей 25-годдзя дыпламатычнай дзейнасці паміж дзвюма краінамі. Прапануем успомніць, як наладжвалася ўзаемасувязь паміж Беларуссю і Ватыканам, што за "сляды" ў Гродзенскай дыяцэзіі пакінуў Святы Айцец, а таксама якія абавязкі ў краіне выконвае яго пасланнік.**

### НУНЦЫЙ АД ЛАЦ. "NUNTIUS" – ВЕСНІК

Нунцый з'яўляецца пастаянным дыпламатычным прадстаўніком Папы Рымскага ў дзяржавах, з якімі Ватыкан падтрымлівае афіцыйныя дыпламатычныя адносіны. У наш час гэтыя функцыі адпавядаюць Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу.

З пункту гледжання Кананічнага права каталіцкага Касцёла, дзейнасць нунцыяў рэгулююць каноны 362–367. Звычайна дыпламатычныя прадстаўнікі Святога Пасаду ўзведзены ў ранг арцыбіскупа. Могуць праводзіць богаслужэнні ў любой каталіцкай святыні на тэрыторыі сваёй дыпламатычнай місіі. Нунцыі не ўваходзяць у склад лакальнай канферэнцыі каталіцкіх біскупаў, але паводле канонаў павінны падтрымліваць з ёй цесную сувязь і аказваць магчымую дапамогу. У кола абавязкаў нунцыяў уваходзіць падтрымка адносін паміж Святым Пасадам і дзяржаўнымі органамі, абмеркаванне з уладамі становішча каталіцкага Касцёла ў краіне, падтрымка дзейнасці біскупаў лакальнага Касцёла, садзейнічанне міру і ўзаемаразумення паміж народамі, умацаванне сяброўскіх сувязей з некаталіцкімі хрысціянскімі Цэрквамі і супольнасцямі, а таксама вернікамі нехрысціянскіх рэлігій. Нунцыю належыць права пасля неабходных кансультацый з мясцовымі іерархамі прапаноўваць Святому Пасаду кандыдатаў на вакантныя біскупскія кафедры. Ён таксама мае правамоцтва перадаваць мясцовым вернікам благаслаўленне Пантыфіка.

**На сёння Святы Пасад мае дыпламатычныя адносіны з 178 дзяржавамі, у ліку якіх і Беларусь.**



*Будынак сучаснай Апостальскай нунцыятуры ў Мінску*

### ПАСОЛЬСТВА ВАТЫКАНА Ў БЕЛАРУСІ

Дыпламатычныя адносіны паміж Святым Пасадам і Рэспублікай Беларусь былі ўсталяваны па ўзаемнай

# НАВЕДАЕ ГРОДЗЕНСКУЮ ДЫЯЦЭЗІЮ


*У мінскай архікатэдры нунцый падзяліўся аплаткай з удзельнікамі моладзевага чування*

**хрысціянскія каштоўнасці не зусім "упісваюцца" ў дзяржаўную палітыку... Як павінен паводзіць сябе сапраўдны вернік і, адпаведна, уся супольнасць?**

Адчуваю ў Вашым пытанні крыху іроніі. Перш за ўсё, неабходна добра разумець, што такое дыпламатыя. Яе мэтай з'яўляецца пошук таго, што аб'ядноўвае людзей, а не засяроджванне ўвагі на тым, што раздзяляе. Бо толькі тое, што яднае, дазваляе нам размаўляць, супрацоўнічаць, аб'ядноўваць свае намаганні, каб дасягнуць нейкага станоўчага выніку на карысць агульнага дабра.

Трэба адзначыць, што хрысціянін нікому не павінен навязваць свае каштоўнасці. Ён пакліканы жыць так, каб іншыя, гледзячы на прыгажосць і аўтэнтычнасць яго жыцця, самі захацелі прыняць гэтыя каштоўнасці. У той жа час мы – хрысціяне – нароўні з іншымі маем поўнае права выказваць свае думкі, меркаванні, свабодна практыкаваць хрысціянскую веру, карыстаючыся агульначалавечымі правамі.

**Як гавораць, інвестыцыі ў моладзь – інвестыцыі ў будучыню. Як, на Ваш погляд, Касцёл павінен клапаціцца пра наступнае пакаленне?**

Касцёл добра ўсведамляе, як важна забяспечыць працягласць пакаленняў. Аднак неабходна памятаць, што фарміраванне хрысціянскай свядомасці ў дзяцей і моладзі пачынаецца, перш за ўсё, з сям'і, з таго прыкладу, які даюць ім бацькі, бабулі, дзядулі. Таксама і Касцёл як інстытут і супольнасць вернікаў, прапануючы маладым людзям сапраўдныя ідэалы, павінен быць верагодным сведкам таго, што прапаведуе. Гаворачы пра важнасць душпастырства моладзі, папа Францішак не раз адзначаў, што гэтая сфера функцыянавання Касцёла павінна быць "нечым большым за простую арганізацыю рознай дзейнасці для юнакоў і дзяўчат: яна павінна характарызавацца прысутнасцю побач з імі – суправаджэннем у складаных і часам цяжкіх кантэкстах, у якія яны пагружаны".

**Сёння вельмі сумна назіраць за тым, як руйнуецца такі інстытут, як сям'я. Пад відам дэмакратыі заключаюцца грамадзянскія шлюбы, паўторныя саюзы. У выніку дзеці выхоўваюцца без бацькоў... А ці добрая поўная сям'я – не найважнейшая каштоўнасць у жыцці кожнага чалавека?**

Вядома ж, так. Касцёл заўсёды падкрэсліваў важнасць інстытуту сям'і, не толькі нагадваючы пра высокае пакліканне сямейнага жыцця, але і дзейсна суправаджаючы сем'і ў рэалізацыі гэтага паклікання. Аднак, як я ўжо казаў, немагчыма пабудаваць моцную сям'ю з трывалымі адносінамі, навязваючы нормы і законы, якімі б добрымі яны не былі. Лацінскае выслоўе гучыць так: "Словы навучаюць, а прыклад жыцця прыцягвае". Таму толькі даючы прыклад прыгожага сямейнага жыцця, можна паказаць іншым, што ў наш час гэта таксама магчыма, і абудзіць жаданне ствараць менавіта такія сем'і.

**Папа Францішак ведае пра Беларусь?**

Так. Перад маім прыездам у Беларусь я сустракаўся з Пантыфікам. З нашай размовы я зразумеў, што Святы Айцец добра ведае сучасную сітуацыю ў краіне і таксама яе нялёгкую гісторыю. Так як і мае папярэднікі, я мог пераканацца, што Папу цікавіць не толькі агульнае жыццё ў грамадстве, але і лёсы паасобных людзей. З гэтай сустрэчы я выйшаў з перакананем, што беларускі народ знаходзіцца ў сэрцы Папы.

## ПРАГРАМА ВІЗІТУ АПОСТАЛЬСКАГА НУНЦЫЯ Ў ГРОДНА

### 4 сакавіка, субота

**11.30** – прывітанне пры катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя.

**12.00** – св. Імша з нагоды ўрачыстасці літургічнага ўспаміну апекуна Гродзенскай дыяцэзіі св. Казіміра, каралевіча. Падчас літургіі запланавана ўдзяленне паслуг акалітату і лектарату клерыкам Гродзенскай ВДС.

**15.30** – сустрэча з выкладчыкамі і семінарыстамі Гродзенскай ВДС.

**18.00** – сустрэча са студэнтамі катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі *(зала пры катэдральным касцёле)*. Супольная малітва, кароткая прамова і бласлаўленне.

### 5 сакавіка, нядзеля

**9.45–10.15** – сустрэча са студэнтамі-каталікамі з Афрыкі і Азіі *(рэктаральны касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі)*. Супольная малітва, кароткая прамова і бласлаўленне.

**10.45** – сустрэча з парафіянамі касцёла Божай Міласэрнасці *(мікраараён Вішнявец)*. Супольная малітва, кароткая прамова і бласлаўленне.

**12.00** – св. Імша ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля *(мікраараён Дзевятоўка)*.

**18.00** – сустрэча з моладдзю акадэмічнага душпастырства "OPEN", удзельнікамі евангелізацыйнага курсу "Альфа", членамі Францішканскага ордэну свецкіх, прадстаўнікамі апостальства "Маргарытка", членамі душпастырства выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў і службы аховы здароўя *(рэктаральны касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі)*. Супольная малітва, кароткая прамова і бласлаўленне.

### 6 сакавіка, панядзелак

**8.00** – св. Імша ў Гродзенскай ВДС з удзелам мадэратараў і семінарыстаў.

*Падчас візіту Апостальскага нунцыя плануецца сустрэча са свецкімі ўладамі, а таксама з праваслаўным арцыбіскупам Гродзенскім і Ваўкавыскім Арцеміем Кішчанкам. Арцыбіскупу Габару Пінтэру будзе прапанавана наведванне некаторых парафіяльных супольнасцей у Гродне, дзе вядзецца будаўніцтва святынь, а таксама гарадская экскурсія.*

*У праграме могуць адбыцца змены.*

згодзе 2-юх краін. Дамова падпісана 11 лістапада 1992 года ў Мінску. У гэты дзень папа Ян Павел II выдаў булу "Quantam tandem" аб заснаванні Апостальскай нунцыятуры ў Беларусі і яе адкрыцці. "Ужо раней кожнаму было цалкам відавочна, наколькі пажаданыя мір і дабрабыт і колькі, акрамя таго, зачаткаў сацыяльнага прагрэсу звычайна прыносіць самой грамадзянскай супольнасці афіцыйнае заключэнне сяброўства паміж Апостальскай Сталіцай і асобнымі краінамі свету, – гаворыцца ў афіцыйным дакуменце. – І самі Мы з кожным днём усё больш у гэтым пераконваемся. Гэта падалося Нам вельмі важкай падставай для таго, каб усталяваць з народам Беларусі больш цесныя сувязі праз заснаванне Апостальскай нунцыятуры і ў далейшым часе праз дзейнасць нашага легата ў беларускім народзе".

Пасля ўтварэння нунцыятура некаторы час знаходзілася ў Ватыкане. Толькі праз амаль 2 гады была перанесена ў Мінск.

**Дыпламатычныя адносіны паміж Ватыканам і Беларуссю падтрымліваюцца з боку Святога Пасаду на ўзроўні Апостальскай нунцыятуры (на чале з Апостальскім нунцыем) і з боку Рэспублікі Беларусь на ўзроўні Пасольства (на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом).**

### ВІЗІТЫ ПАПСКІХ ПАСЛАННІКАЎ У ДЫЯЦЭЗІЮ

За час існавання Апостальскай нунцыятуры ў Беларусі Ватыкан неаднаразова накіроўваў у Гродзенскую дыяцэзію спецыяльных пасланнікаў Яго Святасці і кіраўнікоў Святога Пасада вышэйшага ранга. Некалькі разоў дыяцэзію наведваў кардынал Зянон Грахалеўскі, прэфект Кангрэгацыі каталіцкай адукацыі. У першы раз яго візіт быў прымеркаваны да святкавання 100-годдзя з Дня нараджэння св. Максімільяна Кольбэ (1994 год). У 2-гі раз Яго Эмінэнцыя наведаў Гродна ў сувязі з урачыстым пасяджэннем з нагоды 10-годдзя заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі (2000 год). У 3-ці раз кардынал прыязджаў падчас святкавання 20-годдзя семінарыі і 305-годдзя кансэкрацыі гродзенскай катэдры (2010 год). У 4-ты раз Яго Эмінэнцыя наведаў Гродна ў сувязі з праўдзеннем Нацыянальнага эўхарыстычнага кангрэсу (2016 год). У рамках візіту ў Беларусь па пытаннях рэлігійнага дыялогу і міжканфесійных адносін у Гродна прыязджаў Старшыня Папскай Рады па садзеянні хрысціянскаму адзінству кардынал Вальтэр Каспер (2002 год). Наведванне цэнтра дыяцэзіі было прадугледжана таксама праграмай афіцыйнага візіту дзяржсакратара Апостальскай Сталіцы кардынала Тарчызіа Бертонэ (2008 год).

У сувязі з гэтым, можна зрабіць высновы, што дыпламатычныя адносіны паміж Ватыканам і Беларуссю (у тым ліку і Гродзенскай дыяцэзіяй) трываюць на якасна высокім узроўні.


*Апостальскі нунцый разам са сваім сакратаром, беларускімі іерархамі і кіраўнікамі каталіцкіх СМІ*

### АДЗНАКІ СВЯТОГА ПАСАДА

Пры садзеянні Апостальскай нунцыятуры ў Беларусі і гродзенскага ардынарыя Аляксандра Кашкевіча некаторыя прадстаўнікі духавенства дыяцэзіі адзначаны тытуламі Ганаровага прэлата Яго Святасці. Гэта кс. Антоній Ханько, кс. Вінцэнт Лісоўскі, кс. Казімір Шаняўскі і кс. Антоній Філіпчык. Тытулам Капелана Яго Святасці – кс. Вітольд Лазавіцкі, кс. Юзаф Станеўскі, кс. Лешэк Дамагала.

Сярод духавенства асаблівым медалём "Pro Ecclesia et Pontifice" ("За заслугі перад Царквой і Папам") узнагароджаны кс. прэлат Ежы Мар'ян Лявінскі, а. Андрэй Шчупал, а. Караль Барнась, кс. Тадэвуш Вышынскі, сярод свецкіх – Юзаф Дзеразінскі, Францішак Аўдзей, Марыя Аўдзей, Стэфан Ядкоўскі, Павел Клімук. Адзнака лічыцца шостай па старшынстве ўзнагародай рымска-каталіцкага Касцёла.

Такім чынам, дыяцэзія пакідае свой след у гісторыі не толькі лакальнага, але і Паўсюднага Касцёла. Хочацца спадзявацца, што гэта добры пачатак вялікага шляху ў дыялогу паміж дзвюма краінамі. І, адначасова з тым, паміж мясцовымі вернікамі і – праз Ватыкан – хрысціянамі ўсяго свету.

**Апостальскія нунцыі ў Беларусі**

**Габрыэль Мантальва Ігера** *(1993–1994 гг.)*
**Агасціна Маркета** *(1994–1996 гг.)*
**Дамінік Грушоўскі** *(1996–2001 гг.)*
**Іван Юркавіч** *(2001–2004 гг.)*
**Марцін Відавіч** *(2004–2011 гг.)*
**Клаўдыа Гуджэроці** *(2011–2015 гг.)*
**Габар Пінтэр** *(з 2016 г.)*

***Ангеліна Пакачайла,***
*выкарыстаны фота catholic.by*







***Прадстаўлены лагатып візіту Пантыфіка ў Фаціму***

***Пілігрымка папы Францішка пройдзе 12–13 мая з нагоды 100-годдзя аб'яўленняў тут Найсвяцейшай Панны Марыі.***

*У цэнтры лагатыпа змешчана выява ружанца, раскладзенага ў форме сэрца. Унутры напісаны словы "Папа Францішак" і "Фаціма 2017", а пад ружанцам – дэвіз падарожжа: "З Марыяй, пілігрым надзеі і міру". У ніжняй частцы лагатыпа знаходзіцца стылізаваная выява фацімскага санктуарыя з датамі: 1917 і 2017, якія нагадваюць пра юбілей аб'яўленняў.*

*Аўтар лагатыпа Франсіска Правідэнс тлумачыць, што сімвалы выражаюць "дух міласэрнасці і міру", а таксама "прастату стылю і яснасць", якія характарызуюць пантыфікат Святога Айца.*




***"40 дзён для жыцця"***

***Пад такім дэвізам у 400-ах гарадах свету на 5-ці кантынентах будзе праводзіцца акцыя ў абарону жыцця. Яна распачнецца 1 сакавіка і працягнецца да 9 красавіка.***

*Акцыя прадугледжвае шмат малітоўных ініцыятыў, арганізаваных перад клінікамі і бальніцамі, дзе здзяйсняюцца аборты. Акрамя таго, яе ўдзельнікі будуць захоўваць пост у інтэнцыі абароны жыцця. Паводле ацэнак, у акцыі будуць задзейнічаны больш за 700 тысяч валанцёраў "pro-life".*

*У мінулыя гады дзякуючы акцыі "40 дзён для жыцця" былі выратаваны 12 668 дзяцей, закрыты 75 абартарыяў, пераканы, каб больш не прыкладваць руку да забівання нявінных дзяцей, 141 медыцынскі супрацоўнік.*




***Стартуе акцыя "Місіянер на пост"***

***Яе мэта ў духоўнай падтрымцы польскіх місіянераў.***

*Прыняць удзел у праекце можа любы жадаючы незалежна ад полу, узросту ці паходжання. Каб далучыцца да ініцыятывы, неабходна запоўніць бланк заявы на інтэрнэт-старонцы misjonarznapost.pl, выбраць місіянера і краіну яго цяперашняга побыту.*

*У мінулым годзе ў акцыі прынялі ўдзел больш за 5 тыс. чалавек. Кожнага польскага місіянера (якіх па ўсім свеце каля 2-ух тыс.) духоўна падтрымлівалі па меншай меры 2 асобы. Ахвотна выбіралі тых, хто служыць у Судане, на Мадагаскары і сярод эскімосаў.*

***Кінга Красіцкая***

## Семінарысты наведалі дом-інтэрнат у Галавічполі

*На сустрэчу з дзецьмі-інвалідамі навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі адправіліся на чале з прэфектам кс. Андрэем Лішко.*

Насычаная яркімі эмоцыямі і ўражаннямі атмасфера паспрыяла таму, што хлопцы і дзяўчаты адчулі бязмежную любоў, узаемападтрымку і цеплыню бацькоўскага дома. Для семінарыстаў час, праведзены разам з дзецьмі, дазволіў адчуць радасць ад магчымасці несці жыццядайнае пасланне Евангелля для самых абяздоленых, хворых і пакінутых.



У доме-інтэрнаце ў Галавічполі выхоўваюцца дзеці з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ва ўзросце 4–18 гадоў. Семінарыйная супольнасць апекуецца імі ўжо на працягу некалькіх гадоў.

## "Пакліканыя да любові"

*Пад такім дэвізам ў салезіянскім араторыі св. Яна Боско ў Смаргоні прайшлі рэкалекцыі пакліканія для дзяўчат. На сустрэчу сабралася каля 30-ці ўдзельніц з розных куткоў Беларусі.*



Галоўная тэма для роздуму, якую прапанавалі дзяўчатам сёстры салезіянкі, гучала як "Служэнне як дар". Сабраныя разважалі над сваім прызначэннем у жыцці, збіраліся на супольнай малітве і адаравалі Найсвяцейшы Сакрамант. Акрамя таго, дзяўчаты бавілі час за выкананнем розных заданняў у групах, праглядам тэматычных фільмаў.

"На падобных рэкалекцыях я прысутнічала ўпершыню, – адзначае ўдзельніца Кацярына Ількевіч. – Адкрыла для сябе новае малітоўнае панянцце – «пустыня». Гэта асаблівы момант, калі кожны ў адзіноце і цішыні можа паразважаць над пачутым падчас канферэнцый і адказаць на пытанні, якія раней нават не адважваўся сабе задаць. Дзякуючы сустрэчы ў Смаргоні я зразумела, што служэнне – гэта сапраўды велізарны дар".

## Дзень засяроджання прайшоў у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне

*Яго для клерыкаў правёў кс. Ян Сарэла з парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўне. Ён разважаў пра сутнасць святарскага служэння і распавядаў, адкуль яно бярэ сваю моц.*



Дзень засяроджання – гэта асаблівы час фарміравання блізкіх адносін з Хрыстом, які патрабуе цішыні і інтэнсіўнай малітвы. Ён паспрыяў таму, што на пачатку чарговага навучальнага семестра клерыкі змаглі па-новаму паглядзець на сваё духоўнае жыццё і аднавіць сілы. Адведзены для роздуму час стаў для семінарыйнай сям'і яшчэ адной прыступкай да ўнутраных змен і духоўнага развіцця.

## Малітоўная сустрэча на тэму пакаяння прайшла ў Мастах

*Спатканне, прымеркаванае да пачатку Вялікага посту, адбылося ў касцёле Маці Божай Тройчы Цудоўнай. Сустрэчу правёў пробашч парафіі кс. Віктар Ханько.*



Святар адзначыў, што людзі вельмі часта выкарыстоўваюць слова "пакаянне", але, на жаль, не заўсёды разумеюць яго дакладнае значэнне. Паводле слоў ксяндза, калі чалавек шкадуе, што ў выніку яго граху пакутуе іншая асоба, – гэта яшчэ не пакаянне. Калі чалавеку дрэнна і баліць сумленне – "гаворыць" ягонае эга. "Пакаянне – значыць бачыць слёзы Хрыста, Ягоныя раны, нанесеныя намі. Гэта прынясе горкай праўды пра сябе і жаданне выправіцца. Пакаянне з'яўляецца галоўнай прыкметай любові да Бога. І менавіта любоў, а не страх, боль ці жаданне наследаваць іншых павінна быць галоўным матывам ва ўзаемаадносінах з Богам", – падкрэсліў пробашч.

Пасля сустрэчы вернікі прынялі ўдзел у адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, а таксама памаліліся аб вызваленні ад граху і плённым перажыванні перыяду Вялікага посту.

## Беларуская даследчыца падрыхтавала зборнік на аснове кляштарных хронік Гродна

*Аўтар кнігі – гісторык Ганна Паўлоўская. Жанчына працавала над выданнем апошнія некалькі гадоў.*




Кніга "Гродзенскія кляштарныя хронікі XVII і XVIII стагоддзяў. Якасныя формы і камунікацыйныя аспекты" падрыхтавана да друку на факультэце свабодных мастацтваў Варшаўскага ўніверсітэта. Пабачыла свет у польскім выдавецтве DiG.

"З тэарэтычнага погляду выйшла сучасная кніга, якая апісвае кляштарныя хронікі цалкам іншым, новым спосабам, які натхняе на далейшыя даследаванні", – адзначае аўтар выдавецкай рэцэнзіі доктар Пётр Вільчак. "Аўтар звяртае ўвагу на семіятычную сувязь падзей, паводле якой адбіраліся і сістэматызаваліся даныя ў хроніцы, што фіксуе гісторыю. Адбор такога роду з'яўляецца пытаннем вельмі цікавым, і ў гэтым асаблівая заслуга аўтара. Гісторыя паказана таксама як навука пра каштоўнасці", – дадае іншая рэцэнзентка Альжбета Янус.

## Рэкалекцыі для студэнтаў катэхетычных курсаў адбыліся ў Гродне

*Духоўныя практыкаванні для будучых катэхетаў правёў рэдэмптарыст а. Марыюш Мазуркевіч.*



Спатканне распачалося св. Імшой. Праграмай сустрэчы былі прадугледжаны шэраг тэматычных канферэнцый, рэфлексійная праца ў групе, сумесны прагляд фільма. Удзельнікі рэкалекцый засяроджваліся на тым, як могуць дзяліцца Богам у свеце. Вучыліся аналізаваць сваё жыццё праз Святое Пісанне, разглядаць у ім падказкі. І, разам з гэтым, эфектыўна арганізоўваць асабістую малітву, якая з'яўляецца для чалавека "больш натуральнай, чым дыханне".

Рэкалекцыі для студэнтаў катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі па традыцыі праводзяцца штогод перад распачаццем Вялікага посту.

## Рэкалекцыі для катэхетаў адбыліся ў Гродне

*У духоўных практыкаваннях, арганізаваных Аддзелам каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі, удзельнічалі кансэкраваныя і свецкія асобы, якія катэхізуюць у Гродзенскай дыяцэзіі.*



Рэкалекцыйныя навукі на тэму "Ідзіце і абвяшчайце" прамовіў а. Марыюш Мазуркевіч CSsR. Святар заклікаў удзельнікаў сеяць зерне Божага слова ў глыбіні чалавечых сэрцаў. Пры гэтым падкрэсліў, што кожны катэхет пакліканы адважна перадаваць праўды веры з вялікай любові да Бога і людзей, а не з абавязку ці прымусу. Падчас канферэнцый а. Марыюш разважаў пра тое, як павінна адбывацца абвяшчэнне Пана Бога вернікам у эру інтэрнэту.

Рэкалекцыі завяршыліся св. Імшой у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. Эўхарыстыю ў інтэнцыі катэхетаў дыяцэзіі ўзначаліў біскуп Юзаф Станеўскі. Іерарх падзякаваў усім, хто з вялікай адказнасцю і запалам падыходзіць да сваёй справы – абвяшчэння Божага слова і катэхізацыі дзяцей і моладзі. Біскуп заклікаў катэхетаў праз прыклад свайго штодзённага жыцця і самапрысвячэння быць відавочным знакам для свету і людзей.

## АНОНСЫ

### "RYBYPROJECT" ЗАПУСКАЕ ФАРМАЦЫЙНЫ ПРАЕКТ ДЛЯ ХРЫСЦІЯНСКІХ МУЗЫКАНТАЎ

**Першы ўікенд з гуртом пройдзе 10–12 сакавіка ў касцёле Маці Божай Фацімскай у Жодзіне. Будзе ўяўляць сабой адмысловую музычную майстэрню пад кіраўніцтвам "Rybyproject". Праграма складаецца з тэарэтычнай і практычнай часткі. Прадугледжаны заняткі як з вакалістамі, так і з музыкантамі: барабаншчыкамі, клавішнікамі і гітарыстамі. Мэта праекта – абмен вопытам паміж удзельнікамі і павышэнне іх прафесійнага ўзроўню.**

У перспектыве арганізатары сустрэчы разглядаюць стварэнне платформы хрысціянскіх музыкантаў у Беларусі.

*Дадатковая інфармацыя па тэлефоне: (8 033) 637-57-14, Віталій; e-mail: rybyproject@mail.ru.*

### "СУЖЭНСКІЯ СУСТРЭЧЫ" АДБУДУЦЦА Ў ОРШЫ

**Чарговае спатканне па аднаўленні і паглыбленні сужэнскай еднасці і любові будзе праходзіць 10–12 сакавіка ў парафіі св. Юзафа. Рэкалекцыі правядуць айцец дамініканец з Віцебска і сямейныя пары, аніматары руху.**

Начлег і пасілак забяспечваюць арганізатары. Неабходныя ўмовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме.

*Кантактныя нумары для запісу на рэкалекцыі: (8 029) 556-26-35, (8 029) 140-84-56, (8 029) 782-14-66, Іван і Алена Лубінскія; e-mail: sustre4y@tut.by.*

### ГРОДЗЕНСКАЯ ПАРАФІЯ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ФАЦІМУ

**Парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне ладзіць аўтобусную пілігрымку з нагоды 100-годдзя аб'яўленняў Маці Божай у Партугаліі. Па дарозе плануецца наведванне некаторых санктуарыяў і еўрапейскіх гарадоў.**

**Санктуарыі**
Лурд *(Францыя)*, Санцьяга-дэ-Кампастэла *(Іспанія)*, Фаціма *(Партугалія)*
**Гарады Еўропы**
Парыж, Страсбург *(Францыя)*, Барселона *(Іспанія)*, Лісабон *(Партугалія)*
**Час пілігрымкі**
25 чэрвеня – 9 ліпеня

**Дадатковая інфармацыя**
*Алена Мелеш: (8 033) 311-20-01, hmielesz@interia.pl;*
*А. Эдуард Пяцельчыц CSsR: (8 033) 371-50-49, edikcssr@gmail.com*

### КУРСЫ-РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў НАВАГРУДКУ

**Пройдуць 21–26 ліпеня ў кляштары сясцёр назарэтанак. Прыняць удзел у курсах могуць кансультанты сямейнага жыцця, а таксама ўсе зацікаўленыя.**

У праграме прадугледжаны цыкл сустрэч, падчас якіх удзельнікі змогуць пашырыць свае веды адносна пытанняў веры, сямейнага жыцця, спосабаў будавання добрых стасункаў у сужэнстве. Кожны зможа задаць пытанні падчас адмысловага пункту праграмы "100 пытанняў да…". Падчас разважання над Божым словам вернікі паглыбяць малітоўнае жыццё. Галоўнай падзеяй дня будзе Эўхарыстыя.

*Запіс па тэлефоне: (8 029) 588-42-73, Ірына Мялешка.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**28 лютага 1947 г.** – кс. Юзаф Плева, *проб. Астрына;*
**28 лютага 1996 г.** – а. Генрых Навакоўскі OFMConv., *проб. Жодзішкі;*
**1 сакавіка 2000 г.** – кс. прэлат Юзаф Грасэвіч, *проб. Каменка;*
**10 сакавіка 1932 г.** – кс. Вінцэнт Сідорскі, *проб. Дуды;*
**10 сакавіка 1943 г.** – кс. Аляксандр Аўгусціновіч, *проб. Няцеч;*
кс. Альфонс Бароўскі, *проб. Лядск;*
кс. Францішак Цыбульскі, *проб. Трабы;*
кс. Стэфан Дабравольскі, *проб. Беліца;*
кс. Вінцэнт Лабан, *проб. Ліда-Слабада;*
кс. Люцыян Мрачкоўскі, *вік. Ліда-Слабада;*
кс. Юрый Ажароўскі, *проб. Ліпнішкі;*
кс. Стэфан Снягоцкі, *вік. Ліда-Фара;*
**12 сакавіка 1969 г.** – кс. Ян Вялькевіч SDB, *проб. Дзятлава.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***

**Сям'ю абараняе VI Божая запаведзь: "Не чужалож". Яе парушэнне – якім бы рамантычным і прыгожым часам не здавалася чалавеку – у выніку знішчае сем'і, а разам з імі шчасце ды супакой. Прыняцце граху нячыстасці як штодзённай нормы жыцця вядзе да таго, што асоба становіцца абыякавай да дабра і зла, а ў выніку адыходзіць ад Бога. Хоць запаведзь аб захаванні чыстасці знаходзіцца ў Дэкалогу на 6-ым месцы, часцей за ўсё яна з'яўляецца першай у спіску здзяйсняемых цяжкіх грахоў і прычын страты стану ласкі Божай.**

Пра сям'ю шмат гаварыў св. Ян Павел II, паколькі лічыў яе фундаментам, на які апіраецца людское шчасце. Дзякуючы яму сям'я стала коранем вучэння Касцёла. У пачатку лютага бягучага года прэфект Кангрэгацыі веравучэння кардынал Герхард Людвіг Мюлер у інтэрв'ю для часопіса "Il Timone" сказаў, што сужэнства з'яўляецца сакрамантам, таму "ніякая ўлада на небе ці на зямлі, ні анёлы, ні Папа, ні сабор ці дазвол біскупаў не маюць улады, каб гэта змяніць".

### ШТО ГАВОРЫЦЬ ЕЗУС ПРА СУЖЭНСТВА?

Евангелле перадае словы Хрыста, у якіх выразна сказана, як Усемагутны глядзіць на кожную сям'ю: "*«На пачатку стварэння Бог стварыў іх мужчынам і жанчынай. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці сваю і злучыцца са сваёй жонкай, і будуць двое адным целам. Так што яны ўжо не двое, але адно цела. Таму тое, што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае!». У доме вучні зноў спыталіся ў Яго пра гэта. Ён сказаў ім: «Хто разводзіцца з жонкаю сваёю і ажэніцца з іншай, той чужаложыць супраць яе. І калі жонка разводзіцца з мужам сваім і выйдзе замуж за іншага, чужаложыць»*" (Мк 10, 6–12). Езус гаварыў сваім слухачам: *"Вы даследуеце Пісанні, бо думаеце, што ў іх вы маеце жыццё вечнае"* (Ян 5, 39), а таксама *"Пісання нельга адхіліць"* (Ян 10, 35). Такім чынам, немагчыма змяніць вучэнне нашага Пана пра сям'ю.

**"Апошняя бітва паміж Панам і валадарствам д'ябла будзе за сужэнства і сям'ю".**

*С. Луцыя, візіянерка з Фацімы*

# СУЖЭНСТВА Ў СВЯТЛЕ БОЖАГА СЛОВА

У Адкрыцці св. Яна чуем словы ўваскрослага Хрыста, які не згаджаецца з распустай і чужаложствам. Езус любіць чалавека і чакае яго навяртання. Але ў той жа час сцвярджае, што такія ўчынкі "ненавідзіць" і ніколі іх не адобрыць. Звяртаецца да біскупа Эфеза: *"Але добра тое, што ты ненавідзіш учынкі нікалаітаў, якія і Я ненавіджу"* (Ап 2, 6). Нікалаіты дазволілі сабе распусныя норавы, прымалі жыццё ў вольных саюзах без блаславлення Касцёла.

Падобным чынам уваскрослы Збаўца скіроўвае да біскупа Тыятыры вельмі вострыя словы з-за маўчання, якое стала правінай, бо такім чынам дапускаў амаральныя прынцыпы ў яго супольнасці. Гаворыць таксама пра наступствы трывання ў граху: *"Але Я маю супраць цябе тое, што ты дапускаеш жанчыну Езабэль, якая называе сябе прарочыцай, навучае і зводзіць Маіх слугаў, каб чыніць распусту і спажываць ахвярапрынашэнні ідалам. Я даў ёй час апамятацца, але яна не хоча адвярнуцца ад сваёй распусты. Вось кіну яе на ложа, а тых, хто распуснічае з ёй, аддам пад вялікі ўціск, калі не адвернуцца ад сваіх спраў. І дзяцей яе знішчу смерцю. І пазнаюць усе Касцёлы, што Я той, хто даследуе нутро і сэрцы, і адплачу кожнаму з вас паводле ўчынкаў ягоных"* (Ап 2, 20–23). Таму не знойдзем у словах Езуса ніякага прыняцця разводу і трывання ў новым саюзе, які Ён выразна называе "чужаложствам".

У Апакаліпсісе Хрыстос прыгадвае, што Балаам навучыў Балаака, цара Маоба, *"каб стварыць спакусу для сыноў Ізраэля, каб яны спажывалі ахвярапрынашэнні ідалам і распуснічалі"* (Ап 2, 14). Адыход ад Бога павінен быў стаць наступствам прыняцця граху супраць чыстасці.

### ШТО ПРА СУЖЭНСТВА ГАВОРАЦЬ АПОСТАЛЫ?

Св. апостал Павел выразна і адназначна казаў пра святасць шлюбу. Для яго непадзельнасць сужэнства настолькі відавочная, што параўноўваў саюз мужчыны і жанчыны ў шлюбе з непарыўнай і вечнай еднасцю Хрыста з Касцёлам: *"Жонкі, падпарадкоўвайцеся мужам сваім, як Пану, бо муж – галава жонкі, як і Хрыстос – Галава Касцёла. Ён – Збаўца цела. Таму, як Касцёл падпарадкоўваецца Хрысту, так і жонкі падпарадкоўваюцца мужам ва ўсім. Мужы, любіце сваіх жонак, як і Хрыстос палюбіў Касцёл і аддаў сябе за яго, каб асвяціць яго, ачысціўшы купеллю вады ў слове, каб ён з'явіўся перад Ім слаўным Касцёлам, які не мае плямы, ці заганы, ці чаго-небудзь падобнага, і каб ён быў святы і беззаганны. Так павінны мужы любіць сваіх жонак, як сваё цела. Хто любіць сваю жонку, любіць самога сябе. Бо ніхто ніколі не меў нянавісці да свайго цела, але корміць і даглядае яго, як і Хрыстос свой Касцёл, бо мы часткі Цела Ягонага. Таму пакіне мужчына бацьку свайго і маці і злучыцца з жонкай сваёй, і будуць двое адным целам. Вялікая таямніца гэтая, а кажу я ў дачыненні да Хрыста і да Касцёла!"* (Эф 5, 22–32).

У Першым Пасланні да Карынцянаў Апостал прыгадвае словы Езуса пра сужэнства: *"Тым жа, хто ажаніўся, не я наказваю, але Пан, каб жонка не адыходзіла ад мужа. Калі ж адыдзе, то няхай застаецца без мужа, ці паяднаецца з мужам [сваім]. Муж таксама няхай не пакідае жонкі. [...] Жонка звязаная столькі часу, колькі жыве яе муж. Аднак, калі памёр яе муж, яна можа выйсці замуж за каго пажадае, каб толькі ў Пану"* (1 Кар 7, 10–11. 39).

### ЯК ГЛЯДЗЕЛІ НА СУЖЭНСТВА ПЕРШЫЯ ХРЫСЦІЯНЕ?

Няма ніякіх сумненняў, што калі хочам знайсці прыклад для пераймання ў гісторыі, то найлепшым узорам веры і святасці для нас будуць першыя хрысціяне. Яны, жывучы сярод вялікай свабоды звычаяў язычнікаў, заставаліся сапраўднай "соллю зямлі і святлом свету".

У Старым Запавеце здзяйсненне цяжкага граху прыводзіла да адназначнага выключэння вінаватага з Выбранага Народу і асуджэння на смяротнае пакаранне. Гэта былі наступныя правіны: парушэнне шабату, блюзнерства, забойства і чужаложства. Апастазію, забойства і чужаложства хрысціяне трактавалі як вельмі сур'ёзнае зняважэнне Бога. Дадзеныя грахі вялі за сабой забарону прыняцця св. Камуніі. Да VI ст. адпушчэнне цяжкага граху можна было атрымаць толькі раз у жыцці. Пасля яго вызнання перад біскупам грэшнік, адправіўшы доўгую, часта шматгадовую пакуту, мог прыступіць да св. Камуніі. У час адпраўлення пакуты ён не мог не толькі прымаць Цела і Кроў Хрыста, але нават прысутнічаць на св. Імшы з моманту Ахвяравання. Нікому не прыходзіла ў галаву ўспрымаць тагачасную практыку Касцёла як "бязлітаснае правіла", "прыніжэнне годнасці чалавечай асобы" ці "абмежаванне праў чалавека", таму што і той, хто здзяйсняе пакуту, і біскуп, які яе накладваў, бачылі ў пакаянні і паяднанні Божую міласэрнасць і паратунак для душы. З VI ст. Касцёл увёў практыку шматразовай пакуты, але ніколі не змяняў навуку Езуса.

### ЦІ МОЖНА ЗМЯНІЦЬ ВУЧЭННЕ ХРЫСТА АБ СУЖЭНСТВЕ?

Ніхто не можа гэта зрабіць і адначасова застацца ў еднасці з Езусам, бо змяненне Яго навукі вядзе да разарвання сувязі з Богам.

Каб выратаваць Галатаў ад страшнай памылкі змены вучэння Хрыста, св. Павел заклікаў: *"Але калі б нават мы ці анёл з неба пачалі абвяшчаць вам добрую навіну, якая адрозніваецца ад той, што мы абвяшчалі вам, няхай будзе пракляты! Як раней мы казалі, так і цяпер зноў кажу: калі хто абвяшчае вам добрую навіну, якая адрозніваецца ад той, што вы прынялі, няхай будзе пракляты!"* (Гал 1, 8–9).

Напрыканцы варта прывесці словы ўваскрослага Збаўцы з апошняга раздзела Апакаліпсіса: *"Я, Езус, паслаў Майго анёла засведчыць вам пра гэта ў Касцёлах. [...] Я сведчу кожнаму, хто слухае словы прароцтва гэтай кнігі. Калі хто-небудзь дадасць да гэтага нешта, Бог пашле на яго бедствы, апісаныя ў гэтай кнізе. А калі хто-небудзь выкіне нешта са слоў кнігі прароцтва гэтага, Бог адкіне яго ад дрэва жыцця і выкіне са святога горада"* (Ап 22, 16. 18–19).

***Кс. Тадэвуш Крыштопік***




## У смаргонскім араторыі адбыўся II тур "Бітвы мікраранаў 2017"

Мэта праекта – выявіць самую творчую, спартыўную і інтэлектуальную моладзевую каманду горада, аб'яднаць мясцовых маладых людзей і паказаць, што навокал шмат радаснага і прыгожага, галоўнае – рабіць усё разам. Дарэчы, у інтэлектуальным спаборніцтве прыняла ўдзел не толькі моладзь, але таксама дырэктары школ, настаўнікі і бацькі.

Наступны III тур спаборніцтва – спартыўны – адбудзецца 11 сакавіка.












# ЧАМУЧКІ

## Дзіцячая рубрыка



## Чаму Вялікі пост называецца вялікім?

**Хутка распачнецца асаблівы час у літургічным годзе, які павінен падрыхтаваць нас да Вялікадня. Пра яго важнасць і значэнне гаворыць сама назва – Вялікі пост.**

...Каля 2-юх тысяч гадоў таму пасля ўдзялення Хросту Пан Езус пайшоў у пустыню, каб праз малітву і пост падрыхтавацца да выканання вялікай місіі, для якой прыйшоў на зямлю. На працягу 40-а дзён і начэй Ён не еў і не піў. Спакушаўся д'яблам. Трымаўся цвёрда, прысаромліваючы нячыстага.

Пазней па прыкладзе Хрыста Касцёлам быў усталяваны Вялікі пост для вернікаў, які таксама доўжыцца 40 дзён. Ён з'яўляецца падзякай чалавецтва за Збаўцу і адначасова магчымасцю больш сур'ёзна задумацца над жыццём, папрацаваць над слабымі месцамі і паглыбіць асабістыя адносіны з Богам.

Пост – гэта час добраахвотнага самаабмежавання ў ежы і забавах, а таксама ачышчэнне душы ад нядобрых думак і ўчынкаў, падрыхтоўка чалавека да пакаяння. Падчас Вялікага посту вернікі імкнуцца глыбей пазнаць сябе, застаючыся сам-насам з Богам. Надаюць больш часу малітве, наведванню святыні. Прымаюць удзел у набажэнствах Крыжовага шляху і Песень жальбы. Пост з'яўляецца таксама часам здзяйснення добрых спраў. Убачыш жабрака – падай міласціну, убачыш ворага – памірыся, убачыш сябра шчаслівым – не зайздросці. Хай "посцяць" і зрок, і слых. Пазбягай тэлевізара, камп'ютара, шумных гульняў, менш гуляй з тэлефонам. Хай і злы язычок сцеражэцца брыдкіх слоў, лаянкі і кпінаў. Якая карысць, калі абмяжоўваеш сябе ў ежы, а ў астатнім не змяняешся ў лепшы бок?

**З нагоды надыходзячага посту прапануем Тваёй увазе маленькае апавяданне вядомага святара-салезіяніна Бруна Ферэра.**

У аднаго караля быў прыдворны блазан, які кожны дзень весяліў яго сваімі выказваннямі і жартамі. Аднойчы кароль даверыў блазну свой скіпетр, кажучы:

– Трымай яго пры сабе, пакуль не сустрэнеш каго-небудзь дурнейшага за сябе. Тады зможаш падараваць скіпетр яму.

Праз некалькі гадоў кароль сур'ёзна захварэў. Адчуваючы надыходзячую смерць, ён пазваў да сябе блазна, да якога на самой справе быў вельмі прывязаны, і сказаў:

– Я адпраўляюся ў доўгае падарожжа.

– Хутка вернешся?

– Не, – адказаў кароль. – Ужо не вярнуся больш ніколі.

– А як Ты падрыхтаваўся да гэтага падарожжа? – спытаўся блазан.

– Ніяк, – гучаў сумны адказ караля.

– Ты выязджаеш назаўсёды, – сказаў блазан, – і зусім не гатовы да гэтага? Калі ласка, вазьмі гэты скіпетр. Я нарэшце сустрэў чалавека, дурнейшага за сябе.

**А ці гатовы Ты адправіцца ў вялікае падарожжа, доўгі час рыхтавацца, каб спаткаць уваскрослага Хрыста?**

## Заданне:

**паспрабуй разам з бацькамі зрабіць каляндар на 40 дзён Вялікага посту. Падумай, над чым Табе хацелася б працаваць, і ўпішы пастановы ў каляндар.**

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі.**

На пытанні заўсёды гатовы адказаць салезіянкі са Смаргоні.

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і цярплівасці, радасці і аптымізму на кожны дзень. Шчасці Божа!

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а святы Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Адамавічаў і Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**

з нагоды Юбілею жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Святы Дух ніколі Вас не пакідае, Маці Божая моцна трымае за руку, а святыя Заступнікі заўсёды будуць побач і дапамагаюць годна перажываць кожны дзень. Няхай вакол будуць добразычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі, шчырыя і мудрыя малітвы і казанні.

*Вернікі з касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**

з нагоды Імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, шчодрага плёну ў працы на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на нялёгкім святарскім шляху, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, а побач – добразычлівых людзей.

*Родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: апекі Найсвяцейшай Маці, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху. Шчасці Божа!

*Верныя парафіяне і Ружанцовыя колы з парафіі Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага бласлаўлення, здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, моцнай веры, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.

*Ружанцовае кола з в. Гледнявічы*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Бразінскаму**

з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін, шмат радасці ў душпастырскай паслузе, а таксама сілы для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх сустракаеце на святарскім шляху, будуць добрымі і зычлівымі. Жадаем шчодрых Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці і ласкаў ад Езуса міласэрнага.

*Апостальства "Маргарытка" са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Казіміру Жылісу**

з нагоды Імянін і Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні: моцнага здароўя, шмат сіл, цярплівасці, моцнай веры, радасці, заўсёды добрых і зычлівых людзей навокал, а таксама апекі Маці Божай Кангрэгацкай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы Заступнік абараняе Вас ад усіх бед і няўдач, і кожны дзень будзе напоўнены Божай любоўю.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважаны Пробашч Ксёндз Канонік Віктар Веліліс!**

Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух вядзе праз жыццё. Жадаем здароўя, шчасця, надзеі і аптымізму.

*Удзячныя парафіяне з касцёла св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Селіванаўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, цярплівасці і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бог заўсёды асвячае і бласлаўляе дарогу жыцця і святарскай паслугі. Жадаем мноства сіл у душпастырскай працы, дароў Святога Духа, здзяйснення планаў і намераў.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жупранаў*

**Паважаным Айцу Казіміру Енджэйчаку і Ксяндзу Казіміру Мураву**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, цёплых і сонечных дзён, шчодрых Божых дароў і ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай Пан Бог за ўсё Вас узнагародзіць.

*Жыхары з в. Дзісевічы*

**Паважанаму Ксяндзу Казіміру Жывалеўскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, бласлаўлення і шмат радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.

*Кола Жывога Ружанца св. Брыгіты з в. Падлабенне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Шчыра дзякуем за малітву, дабрыню, адкрытае сэрца і ахвярную працу на карысць Богу і людзям.

*З павагай, "Легіён Марыі" і група "Добрага Пастыра" з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым бласлаўленнем, побач будуць добразычлівыя людзі, а здароўе, радасць і поспех ніколі не пакідаюць. Жадаем усіх Божых ласкаў, а таксама няспыннай апекі Маці Божай.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Раману Цесляку**

з нагоды Імянін складаем самыя найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, радасці, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца Вамі, захоўвае ад злога, выпрошваючы ў Сына ўсе неабходныя ласкі, а Святы Дух напаўняе сваімі дарамі. Дзякуем за адданую службу Богу і людзям, цудоўны прыклад веры і мудрасці, увагу да кожнага верніка, шчырую малітву, цярплівасць, добрую ўсмешку і любячае сэрца. Шчасці Божа!

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай Каралевы Супакою з Гродна-Аўгустоўка*

**Дарагі Ксёндз Пробашч Віталій Внароўскі!**

Дзень нараджэння – радасная нагода, каб падзякаваць Богу за дар Вашага жыцця, дар святарства і паслугу ў нашай парафіі. Вы для нас – клапатлівы і любячы бацька, добры пастыр і настаўнік, прыклад ва ўсім. Мы любім Вас і прагнем скласці самыя сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, бласлаўлення і толькі радасных хвілін. Няхай Езус Хрыстус будзе праваднікам па ўсіх жыццёвых шляхах, а ў сэрцы Найсвяцейшай Маці няхай знойдзецца для Вас суцяшэнне і спакой, як для Яе ўмілаванага сына.

*З малітвай, вернікі з парафіі Адэльск*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Гардзейчыку і Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін ад усяго сэрца жадаем шмат здароўя, поспехаў, стойкасці на нялёгкім святарскім шляху, радасці, Божага бласлаўлення на кожны дзень і нястомнай апекі Маці Божай. Няхай святы Заступнік ахоўвае Вас ад усіх няшчасцяў і няўдач.

*Вернікі з парафіі Кемелішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Імянін складаем найпрыгажэйшыя пажаданні. Няхай Пан Бог адорвае добрым здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, святы Заступнік нястомна дапамагае ў жыцці, а Дух Святы ўдзяляе свае дары.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, шчаслівых хвілін, шмат радасці ў душпастырскай паслузе, а таксама сіл для рэалізацыі ўсіх планаў на святарскім шляху. Няхай усемагутны Бог адорвае зычлівасцю і дабрынёй, Дух Святы спасылае свае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае мацярынскай любоўю і апекай, асабліва ў цяжкія хвіліны, і выпрошвае ў Сына ўсе неабходныя ласкі.

*Парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Мятліцкаму і Сястры Аляксандры Арэшка**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, сіл, дабрабыту. Няхай Езус Хрыстус заўсёды Вам спадарожнічае, Маці Божая засцерагае ад усякіх няшчасцяў і выпрошвае ў Сына неабходныя ласкі, а Дух Святы напаўняе радасцю. Шчыра дзякуем за паслугу на карысць Богу і людзям. Аддзяч Божа!

*З малітвай, Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя віншаванні.

Прыміце пажаданні,
дарагі наш Ойча,
Вам сваю павагу
выказаць мы хочам.
Няхай нядолі келіх
здалёку Вас абміне,
Каб жылі спакойна
на нашай слёз даліне.
З Божай дапамогай,
у здароўі і шчасліва
Маглі несці паслугу
на гэтай Божай ніве.
Колькі ясных зорак
з неба пазірае,
Столькі ж шчасця, Ойча,
мы Вам пажадаем!

*Сям'я Бондзюш-Есьманькоўскіх*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя віншаванні. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас мацярынскай апекай, Дух Святы шчодра адорвае сваімі дарамі, а святы Заступнік аберагае ў кожную хвіліну жыцця. Усіх ласкаў ад Пана і радасці на кожны дзень.

*Парафіяне з Шэмбелеўцаў і Нямнова*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. (8 0**152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 931; тыраж 4970; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная